ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 г.
№13(73), 2001 г. Кошт па дамове.

### “Вольнае Глыбокае” для Вас !

Свежым пільным вокам
Акіне “Вольнае Глыбокае”
Жыццё вясковае, сялянскае
І гарадское ды не панскае –
Праўдзіва пра усё раскажа.
Паміж мінулым і сучасным
Нітку ўспамінаў моцна звяжа.
Пра родны край з жабрацкай торбай,
Пра стыль жыцця сучасны, модны
Напіша “Вольнае Глыбокае”.
І пажартуе з Вамі шчыра,
І пагаворыць усур'ёз.
Дык не чакай, чытач наш мілы,
Каб хто газету Вам прынёс.
Яе Вы купіце ў кіёсках
І на “хітрушцы” прама з рук.
Калі не хопіць, то ў нядзелю
На рынку знойдзеце наш друк.
Ісці не трэба Вам далёка –
Купляйце “Вольнае Глыбокае”,
Чытайце “Вольнае Глыбокае”
З праграмай TV+ для ўсіх
Нязменна “Вольнае Глыбокае” !

## Да ўвагі распаўсюджвальнікаў “Вольнага Глыбокага”

2001-ы год хоць паволі, але ўпэўнена крочыць да фінішу: не за гарамі восень, а там – Новы год, новыя мары, надзеі, спадзяванні. А Новы год – гэта свята прыемнае для ўсіх. Гэта віншаванні, падарункі, святочны стол. Калі ж хочаце зрабіць сабе да свята яшчэ адзін падарунак, то слухайце. Як і летась, сёлета, у канцы года, мы будзем падводзіць вынікі продажу нашай газеты праз кіёскі Саюздруку і называць лепшую кіяскерку. Летась ёй стала Галіна Волк, абаяльная жанчына, якая і пагаворыць з пакупнікам, і прарэкламуе, не палянуецца, свой тавар і дапаможа яго набыць. Што ні кажы — вопытны прадавец. Напярэдадні Новага 2002-га года мы зноў назавём імя пераможцы-кіяскера і ўручым ад “Вольнага Глыбокага” падарунак з найлепшымі пажаданнямі. А яшчэ мы прапануем чытачам уключацца ў конкурс на лепшую жыццёвую, але неверагодную гісторыю. Пераможца атрымае навагодні падарунак.

***Чытайце “Вольнае Глыбокае”! Адчыняйце акно ў Свет разам з намі!***

*Супрацоўнікі “Вольнага Глыбокага”*

Ля Мосарскага касцёла



Фота Ул.Скрабатуна

## Вяртаемся да вытокаў духоўнасці

Касцёл Святога Антонія, які пабудаваны ў Паставах у канцы XIX стагоддзя, справядліва лічыцца адным з прыгажэйшых у краіне. 25 ліпеня тут адбыліся ўрачыстасці з нагоды прысвячэння ў свяшчэннікі трох ураджэнцаў заходніх рэгіёнаў Віцебшчыны. Блаславіў маладых служыцеляў Яго эксцэленцыя біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Ва ўрачыстай месе прымалі ўдзел 84 ксяндзы. Затым У. Блін сустрэўся з прыхаджанамі касцёлаў Святога Тадэвуша ў Лучаях, Дунілавіцкага, Троіцкага і Святога Архангела Міхаіла ў Варапаева. Усе службы вяліся на беларускай мове і завяршаліся святочнымі канцэртамі.

*Л.Шпак*

## Цытата першай паласы

**Два смысла жизни – внутренний и внешний:
У внешнего -- дела, семья, успех,
А внутренний -- неясный и нездешний --
В ответственности каждого за всех.**

*И.Губерман*

## Роздум з нагоды

## З невялічкіх рачулак утвараецца вялікі акіян

З маленькіх дажджавых кропелек робяцца вялікія лужы. З невялікіх рачулак утвараецца вялікі акіян.

З маленькіх сонечных праменьчыкаў, якія ўранку прабіваюцца праз нябесную тоўшчу, пачынаецца добрае надвор`е.

Мноства маленькіх зярнятак – аснова цёплага пахучага бохана хлеба, які дае сілу і моц чалавеку.

Кожны з нас паасобку – чалавек, а ўсе разам мы – грамадзяне сваёй краіны. Голас кожнага з нас паасобку – сола, голас агульны – дружны спеўны хор, сіла, да якой хочацца прыслухоўвацца.

Хутка адбудуцца выбары. Памятайце, што ў дзень выбараў кожны з нас паасобку – грамадзянін, а ўсе разам мы – выбаршчыкі краіны Беларусь, якія маюць права выбіраць сабе годную будучыню. Не забывайцеся, што толькі агульная мэта – жыць заможна і шчасліва на роднай зямлі – можа аб`яднаць макам рассыпаных па гарадах і сёлах нас, грамадзян Беларусі.

*Галіна Сутула*

## Кожнаму – сваё

Не прыходзіцца адпачываць аператыўна-следчай групе Докшыцкага РАУС. Нядаўна пры правядзенні спецаперацыі “Мак” сышчыкі знайшлі ў хляве жыхара райцэнтра, брыгадзіра мясцовай ПМК – 52, 17 кілаграмаў сырой макавай саломкі. Крыху раней, у ходзе аперацыі “Шлагбаум”, быў затрыманы другі жыхар горада, які перавозіў на ЗІЛе-130 1600 кілаграмаў алюмінію. Ліцэнзіі на здзяйсненне падобных аперацый у яго не было. Кошт затрыманага груза склаў адзін мільён рублёў.

*У. Шык.*

## Колькі хто зарабляе?

Згодна ведамасці беларускі кіраўнік атрымоўвае ў месяц 538 тысяч 400 рублёў. У гэту суму ўваходзіць заробак, дзесьці 150 долараў ЗША, налічэнні за выслугу, за класнасць, прэміяльныя.

*Па матэрыялах рэспубліканскага друку.*

## Хочаш грошай – пішы анкету.

У сярэдняй школе №2 г.п. Радунь Воранаўскага раёна настаўнікі пры атрыманні адпускных грошай павінны адказаць на пытанні анкеты “За каго вы будзеце галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах?”. Пра гэта паведаміў І. Фясенка, настаўнік адной з воранаўскіх школ.

*П. Мажэйка*

## Памятай род свой

У ліку пяці лаўрэатаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу “Мой радавод. Лёс сям`і ў XXI-ым стагоддзі” быў і Антон Ермалёнак з Мёрскай СШ№3. Аб гэтым ужо пісала наша газета. Зараз хочацца сказаць, што поспех Антона, які даўно і сур`ёзна цікавіцца мінулым родных мясцін, быў загадзя прадказальны. У школе, дзе вучыцца хлопец, чвэрць стагоддзя працуе археалагічна- краязнаўчы гурток “Арганаўты мінулага”. Дзеці ў ходзе раскопак шмат чаго даведаліся пра свой горад. Яны знаходзілі старажытныя дынары 1515 года, каменны тапор, скобы, рэшткі керамічнага посуду, а гэтым летам на беразе Мёрскага возера знайшлі язычны могільнік.

Даследаванні А.Ермалёнка, як і работы лепшых удзельнікаў конкурсу, увойдуць у асобную кнігу.

*У. Шык*

## Падзея

## Пакланіліся памяці паэтэсы

У Зэльве адбыліся ўрачыстасці з нагоды 91-ай гадавіны з дня нараджэння паэтэсы Ларысы Геніюш. Удзельнічалі ў мерапрыемстве беларускія пісьменнікі, актывісты палітычных партый і грамадскасці, прадстаўнікі беларускай дыяспары. Пасля набажэнства ўдзельнікі ўрачыстасцяў усклалі на магілу паэтэсы і яе мужа Янкі Геніюша кветкі і вянок.

*П. Мажэйка*

## Радкі з канвертаў

## Я з задавальненнем чытаю “Вольнае Глыбокае”

Гэтую газету я ўпершыню прачытала летась. Пайшла да сваёй сяброўкі, а ў яе яна ляжала на стале. Уткнулася ў нейкі матэрыял і не змагла адарвацца – напісана было ў “яблачка” пра наша жыццё. З таго часу я “палюю” за газетай па кіёсках “Саюздруку”. Не ведаю чаму, але каля ўнівермага ў кіёску купіць яе не магу. Напэўна, месца гэта вельмі люднае і таму газета хутка распрадаецца.

Чым мне падабаецца газета? Па-першае тым, што ў ёй няма голых дзевак і баб, якімі стракацяць старонкі многіх газет. Як памыляюцца выдаўцы, калі думаюць, што гэтым шырспажывам падымуць тыраж! Я веруючая і мне такое не падабаецца. У жыцці кожнага чалавека павінна быць тайна і я лічу, што голая жанчына – гэта тайна яе мужа, а не чытачоў усёй краіны.

Па-другое, газета робіць шмат, каб павярнуць людзей да сапраўдных жыццёвых каштоўнасцяў. Вельмі карысныя павучальныя матэрыялы друкаваліся на працягу мінулага года пад рубрыкай “ Да 200-годдзя хрысціянства”. А якія прыклады прыводзіліся! Яны пераконвалі ў тым, што нябачнае – вечна. Што мы павінны быць людзьмі на гэтай зямлі, а не ворагамі. Вялікі дзякуй супрацоўнікам рэдакцыі за тыя матэ-рыялы. Спадзяюся, Вы і далей будзеце несці Святое слова чытачам.

Вельмі цікавыя краязнаўчыя матэрыялы У.Скрабатуна, Р.Шарыпкіна. Адчуваецца душа ў кожнай заметцы Сафіі Таболы. Чытаю і перажываю разам з ёй і выяўна бачу герояў яе артыкулаў – простых калгаснікаў, спрацаваных, церпялівых.

Аўтары газеты нясуць нам інфармацыю самую разнастайную, і праўду, і сваю духоўнасць. А гэта вельмі шмат.

На мінулым тыдні я купіла “Вольнае Глыбокае” з праграмай тэлеперадач. Ад душы віншую ўвесь калектыў газеты з гэтай значнай перамогай. Малайцы! Як крышку пабагацею, абавязкова куплю кветкі для Вас.

*З павагай*

*ЯнінаМіхайлаўна,*

*пенсіянерка з Глыбокага*

## Рэгіянальны "экспрэс"

### Выгналі другі раз

У сувязі з дэфіцытам цукру, які ўзнік у ліпені ў краіне, трое кіраўнікоў рэспубліканскіх ведамстваў вызвалены ад займаемых пасад. Разам з міністрам гандлю Т. Казловым і старшынёй праўлення "Белкоопсоюза" У. Владыка другі раз за апошнія тры гады звольнены з паста наш зямляк Іван Шакола. Ураджэнца Пастаўшчыны Івана Пятровіча першы раз з гвалтам сагналі ў 1998 годзе з крэсла міністра сельскай гаспадаркі, нягледзячы на тое, што ён дакладна выконваў загады свайго "патрона". Перад сваім прызначэннем на пасаду І. Шакола запомніўся тым, што абліў граззю па тэлебачанні вядомага старшыню-героя В. Старавойтава. Сваю адстаўку І. Шакола перажыў цяжка, але дачакаўся-такі часу, калі яго запатрабавалі. Праз год ён узначаліў Беларускі дзяржканцэрн харчовай прамысловасці. На мінулагодняй урачыстасці да дня 60-годдзя стварэння Пастаўскага раёна, землякі ўбачылі моцна пасівелага І. Шаколу, які быў гатовы другі раз пайсці ва ўладу. Кажуць, на новай пасадзе ён не даваў спуску падначаленым, быў строгі і патрабавальны.

І зноў трагічны фінал. Ці адбудзецца трэцяя хадка ва ўладу – невядома. Вядома толькі адно: нідзе няма такіх краін, акрамя Беларусі, дзе з чыноўнікамі, ваеннымі, міністрамі, гаварылі б як з дрэннымі школьнікамі, прынародна іх прыніжалі і крыўдзілі. А ў нас дарослыя людзі, у чынах і пры званнях, сядзяць на нарадах, як авечкі, патупіўшы вочы долу, ускокваюць па камандзе, як салдацікі. А між тым добра разумеюць у якую бездань коціцца краіна.

*У. Шык.*

### Праваслаўны аздараўленчы лагер пад Віцебскам

4 жніўня пачалася трэцяя змена ў праваслаўным аздараўленчым лагеры "Дружба", што пад Віцебскам. У папярэднія дзве змены тут пабывалі каля 280 дзяцей.

Усе выхавацелі ў лагеры - вернікі і каля трэці іх выхаванцаў - дзеці з рэлігійных сем'яў, якія рэгулярна наведваюць царкву. Са згоды бацькоў у лагеры можна здзейсніць абрад хрышчэння. Усю змену тут працуюць святары Віцебскай епархіі, якія выконваюць абавязкі і духоўнікаў, і выхавацеляў. Па нядзелях праводзяцца малебны. Дзяцей акружаюць абразы, рэлігійныя кнігі. Духоўная праца дапаўняецца працай фізічнай па добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол храма Ксеніі Блажэннай, які будуецца паблізу.

*Л. Сіманаў.*

### Шаркоўшчына "маладзее"

У Шаркоўшчыне, якая не хоча адставаць ад іншых раёнаў паўночна-заходняга рэгіёна Віцебшчыны, мінулай восенню пачалася рэканструкцыя цэнтральнай часткі горада. Сёння Шаркоўшчыну не пазнаць. Пакладзены ходнікі з пліткі, пачаў працаваць фантан, застракацелі амаль у кожным куточку кветкі. Узведзены помнік-стэла воінам-вызваленцам. Ідзе добраўпарадкаванне іншых населеных пунктаў. Прыемна зазірнуць у школы і дзіцячыя садкі, якія аформлены з густам, праехаць праз Лужкі, Іоды, Германовічы – яны ўжо хоць сёння могуць прэтэндаваць на перамогу ў абласным аглядзе-конкурсе па добраўпарадкаванню.

*У. Шык.*

### Смерць ад касы

Да цяперашняга не могуць супакоіцца жыхары вёскі Язна, што ў Мёрскім раёне ад трагедыі, што днямі адбылася ў мястэчку. 52-гадовы мужчына працаваў на прадпрыемстве меліярацыйных сетак і пасля змены паехаў на сенакос. Вяртаючыся позна вечарам дадому па няроўнай дарозе, ён зваліўся з веласіпеда ў ямку. Вострая каса была ў яго ў руках. Вастрыё касы прабіла грудную клетку. Смерць была імгненная.

*У.Шык.*

### Трагедыя за трагедыяй

Не так даўно старшыня калгаса "Прагрэс" Пастаўскага раёна на ўласнай іншамарцы пабукштаўся на дарозе з машынай свайго намесніка. Удар быў такой моцы, што калгасны УАЗік, кажуць, не адрамантаваць. На шчасце, у аварыі ніхто не пацярпеў. Абодва кіраўнікі ўжо выйшлі на працу.

Праз двое сутак пасля гэтай дарожнай аварыі трагічна загінула галоўны бухгалтар калгаса "Прагрэс", якая толькі год назад адзначыла сваё 50-годдзе. У час абедзенага перапынку жанчына са знаёмымі паехала на возера Чарты. Непадалёк ад берага ёй стала дрэнна. Уратаваць не ўдалося.

*У.Шык.*

### Аварыя на чыгунцы

1 жніўня ў 13.35 на перагоне Загацце-Фарынава сышлі з рэльсаў 4 вагоны ў сярэдзіне таварнага цягніка. Таварняк ішоў з Маладзечна ў Наваполацк за палівам. Пацярпелых няма. Прычыны аварыі высвятляюцца.

*А.Мятла.*


*Помнік загінуўшым землякам у вёсцы Івесь Глыбоцкага раёна*

### А есці хочацца

Нядаўна з турмы ў вёску Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна пасля шасцігадовай адсідкі вярнуўся Дзмітрый М. Бацька трох дзяцей, здавалася, узяўся за розум – уладкаваўся на працу начным ахоўнікам на ферму. Але аднойчы ноччу мужчына патрапіў у панадворак адзінокага пенсіянера. Той толькі паспеў закалоць кабана, як пазбавіўся двух мяшкоў мясапрадуктаў. Злодзея знайшлі хутка, хоць той і паспеў распрадаць частку каўбас і сала. На судзе пацярпелы дараваў свайго крыўдзіцеля, пашкадаваў яго малалетніх дзетак. Улічваючы тое, што падсудзімы не адбыў пакаранне за крадзеж з узломам і зноў здзейсніў злачынства, суд пазбавіў яго волі на 2 гады і 8 месяцаў. За апошнія 11 год у Дзмітрыя гэта трэцяя судзімасць.

*У. Шык.*

### Паўстагоддзя на працы

Не многім удаецца зараз аднойчы і назаўсёды знайсці сваё месца ў жыцці, сваю любімую справу. У далёкім 1951 годзе маладой дзяўчынёхай прыйшла працаваць Яўгенія Яроменка ў прыёмную Мёрскай пракуратуры і вось ужо паўстагоддзя загадвае канцылярыяй. Змяняліся штаты, пераязджалі ў новы будынак, раслі сыны, а Яўгенія Ігнатаўна акуратна спраўлялася са сваімі абавязкамі. Нават ад высокааплатнай працы адмовілася. Зараз працоўнае месца для жанчыны – аддушына ад адзіноцтва, бо памёр муж, разляцеліся па свеце дарослыя дзеці.

А спраў у загадчыцы канцылярыі хапае. Толькі за 5 месяцаў бягучага года праз рукі Яўгеніі Ігнатаўны прайшлі дакументы па 51-ой крымінальнай справе. Да гонару райпракуратуры, ні адна справа "не рассыпалася" ў судзе, аператыўна былі вынесены рашэнні па 21-ой скарзе грамадзян, якіх першай выслухоўвае Яўгенія Ігнатаўна.

### Адна кніга на чацвярых

Прыйшлося паламаць галовы супрацоўнікам камплектавання райбібліятэкі ў Мёрах, калі яны атрымалі новую энцыклапедыю "Гісторыя Беларусі". Такіх цікавых кніг выдзелілі на раён усяго дзесяць, а бібліятэк – 41. Дзіцячы шматтомны даведнік "Усё пра ўсё", наогул, даслалі ў раён у адзіным экземпляры.

Паступленне ў бібліятэчныя фонды ў параўнанні з 1988 годам зменшылася ў 3,3 разы. І калі яшчэ ў бібліятэкі Мёр і Дзісны тое-сёе з кніг перападае, то сельскія бібліятэкі навінак не бачаць гадамі. А можа гэта і добра, бо многія сельскія бібліятэкі са "святліц ведаў" ператвараюцца ў сырыя, мокрыя кладоўкі. Зімой многія з іх не ацяпляюцца, кнігі псуюцца, плеснеюць. А такія бібліятэкі, як Сіцькоўская, Паташанская, Маласцянская хутка, напэўна, зусім разваляцца.

*У.Шык.*

### Бетонная прыгажосць

Выпуск новых арыгінальных пліт агароджаў распачаў цэх жалезабетонных вырабаў аграбудфірмы "Рассвет" у Паставах. Кіраўнік фірмы А. Малец бачыў падобнае за мяжой. Пластыкавыя прэс-формы для ліцця закупілі ў Польшчы, пасля проб самі асвоілі тэхналогію вырабу. Зараз агароджы робяць пад заказ з пясчана-гравійнай сумесі і спецыяльнага бетону з рознымі напаўняльнікамі. І служаць яны доўга і глядзяцца прыгожа.

*У. Шык.*

**Сенсацыя**

## Гаражны бокс ляснога начальніка

Размовы пра загадкавы службовы гараж, якім карыстаўся толькі дырэктар, у Пастаўскім лясгасе вяліся даўно. Розныя здагадкі толькі ўзмацніліся, калі былы начальнік Аляксандр Казлоў перайшоў на пасаду генеральнага дырэктара Віцебскай абласной вытворчай лясной гаспадаркі (ВВЛГ), але ключоў ад бокса не здаў, гаражом карыстаўся, як і раней. Але калі 20 ліпеня супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасці панятых, збілі замок гаража, прысутныя нават сумеліся.

Толькі пералік знойдзенай маёмасці займае не адну старонку, бо ўсяго зафіксавана 38 найменняў. Аператыўнікі і супрацоўнікі калектыву ўбачылі ў гаражы новенькія аўтамабілі "Вольва-850" 1995 года выпуска, "Жыгулі" восьмай мадэлі, мікрааўтобус "РАФ", капітальна адрамантаваны "УАЗ-469". Акрамя гэтага сціпла стаялі ў радзе пяць двух і трохколёсных матацыклаў, два матаблокі, дрэваапрацоўчы станок, пасудамыйная машына. Цудоўна выглядалі сярод скуранай мэблі ажно восем новенькіх канапаў з дуба, зробленых у Галандыі... Не цяжка ўявіць рэакцыю людзей, якія маюць заробкі па 40-50 доляраў у месяц, калі яны ўбачылі дабра на дзесяткі тысяч доляраў.

Хутка ў райцэнтры з'явіўся і гаспадар злодзейнага "клада". Ім, як і меркавалася, быў былы кіраўнік, які гадоў дзесяць узначальваў лясгас, А.Казлоў. Ён патлумачыў, што іншамарку купіў для сябе, другія машыны належаць яго бацьку і цесцю, ужо нябожчыку. Супрацоўнікі міліцыі высвятляюць зараз праўду пра пакупку тых матэрыяльных каштоўнасцяў. Да гэтай працы падключыліся і калегі з УУС аблвыканкама. Пакуль пра ўзбуджэнне крымінальнай справы размова не ідзе, але ўзніклі сур'ёзныя пытанні маральнага плану. Незадоўга да ўказаных падзей з калектыва лясгаса па ўласнаму жаданню звольніўся галоўны інжынер Славамір Гінько, які аддаў лясной справе 34 гады. Мінулай восенню яму даручылі выканаць загад, які прыйшоў з абласнога лясного ўпраўлення, і набыць для гаспадаркі вялікагрузны аўтацягнік-сартыментавоз сямейства МАЗ. На сваю бяду С. Гінько прапанаваў кіраўніцтву гаспадаркі для гэтай мэты грошы не траціць, падрамантаваць КАМАЗ –53212 з прычэпам, які шэсць год не эксплуатаваўся і выкарыстаць яго для аўтацягніка. Заадно спецыяліст парэкамендаваў хутчэй вырашыць лёс аўтамабіля ГАЗ – 66 і двух трактараў Т – 25, якія таксама доўга не былі ў эксплуатацыі. Для якіх мэт іх берaглі можна толькі здагадвацца. Згодна знойдзеных міліцыяй дакументаў, "Жыгулі" таксама амаль не езджаныя. На момант набыцця іх балансавы кошт складаў ў цэнах 1994 года 2.938.000 рублёў, а прабег усяго 300 – 400 кіламетраў. Вось і купіў А. Казлоў легкавушку па смешнай цане – па рыначным курсе 145 доляраў. Гэтак жа лясгас прадаў былому дырэктару і матацыклы, якія былі так патрэбны яго падначаленым на месцах. Але няхай ва ўсім разбіраюцца праваахоўныя органы,а мы вернемся да галоўнага інжынера С. Гінько.

У яго пачаліся непрыемнасці на працы і скончылася ўсё тым, што інжынер захварэў і лёг у бальніцу. Пазней вырашыў звольніцца. Праўда, аб вядомых фактах безгаспадарчасці і ўласнай нясціпласці начальніка, ён паведаміў у міліцыю. Між тым, у справе ўсплылі і іншыя цікавыя моманты. Зусім па-іншаму прадстаўляецца фігура гендырэктара А. Казлова, які, па неафіцыйнай інфармацыі, жадае сесці ў крэсла намесніка міністра лясной гаспадаркі, калі размова ідзе пра службовае жыллё, што будуецца для яго ў Паставах. Церам-палац, які пачалі будаваць у 1998 годзе без усялякай праектнай дакументацыі і ў які лясная гаспадарка ўбухала столькі грошай, яшчэ не дабудаваны. Пасля павышэння А. Казлова ў Паставах жыла яго сям'я. Яго жонка, якая ў лясгасе адказвае за закуп лекавых раслін, на працы бывала час ад часу. Жылы дом лясгас утрымліваў на сваім балансе, плаціў за электраацяпленне.

Цікава, што тыя, хто рэкамендаваў А.М. Казлова на павышэнне, быццам бы нічога і не ведалі. Калі ж паглядзець па працоўных паказчыках, то Пастаўскі лясгас на фоне іншых нічым надта не вызначаўся. Нават "Беларуская лясная газета", пішучы пра яго павышэнне, адзначыла сёлета, што тут спрацавалі двайныя стандарты. Пра Пастаўскі лясгас напісалі горкую праўду: "...Зазірнулі ў мясцовы лясгас і былі расчараваны: не выдзяляліся дагледжанасцю і начыненнем гараж, цэх, двор, дзе мокла пад дажджом прадукцыя лесараспілоўкі".

Так сталася, што пераемнік, які змяніў А. Казлова на пасадзе, з ім у "адной звязцы" не ўпрацаваў, з'ехаў на Гродненшчыну...

У гэтай гісторыі будзе працяг. Па іміджу ўлады, якая зараз дзейнічае, будзе нанесены сур'ёзны удар. У іншых краінах чыноўнікі, якія так заплямілі сваю рэпутацыю, пайшлі б у адстаўку. Што будзе ў нас – пабачым.

Хоць па майму разуменню высокапастаўленыя чыноўнікі пры кожным перамяшчэнні ўверх па службовай лесвіцы павінны былі б дэкларыраваць сваю маёмасць і прыбыткі.

*У. Шык*



# Праваабарончая старонка «СЛОВА НАРОДУ»

Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта

Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення **БХК** па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з **16⁰⁰** да **19⁰⁰**. Тэлефоны ў Глыбокім: **2-19-38, 2-37-54**

## Давайце не наступаць на тыя ж граблі

У цяперашнім нашым дрэнным жыцці мы гатовы абвінаваціць каго заўгодна: уладу, Захад, дэмакратаў, апазіцыю, камерсантаў, але толькі не саміх сябе. Доўгія гады нас прывучалі да таго, што ад нас нічога не залежыць.

Няхай начальнікі думаюць, у іх галовы большыя, — такую прымаўку нават склалі. Яно то можа і думае, але ў першую чаргу не пра нас. А мы ўсё яшчэ чакаем ад прэзідэнта, ад урада, ад дэпутата, што ён нам нешта дасць. Таму такая ў многіх распаўсюджаная апатыя да выбараў: "А што яны мне дадуць?". А нам неабходна даць, гэта значыць стварыць, нармальныя ўмовы для працы, бізнесу – астатняе для сябе мы павінны зрабіць самі.

За той стан, у якім мы знаходзімся зараз, вінаваціць мы павінны толькі сябе. Успомнім вынікі галасавання на сумнавядомым рэферэндуме 1996 года. Закранём толькі два апошнія пытанні. На пытанне "Ці выступаеце вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?" большасць выказалася "супраць". Што ў выніку мы атрымалі? Тое, што мясцовая ўлада прызначаецца кіраўніком краіны, а значыць, і служыць яму, а не народу. Калі б яна выбіралася жыхарамі раёна, то ў яе была б зацікаўленасць служыць сваім выбаршчыкам, рабіць усё так, каб яе перабралі на другі тэрмін. Ва ўлады было б больш правоў, каб адстойваць інтарэсы свайго раёна нават перад прэзідэнтам, таму што выбраных людзей нельга так проста зняць з пасады і замяніць іншымі.

На пытанне "Ці згодны вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?", большасць выказалася "супраць". Атрымаўся абсурд: мы не хочам ведаць, як дзяржава расходуе нашы грошы, бо мы ж плацім падаткі на карысць дзяржавы. І хоць вынікі гэтага рэферэндума не прызнаны міжнароднай супольнасцю з-за шматлікіх фальсіфікацый, большасць выбаршчыкаў нашага рэгіёна, асабліва на вёсках, галасавала менавіта так. Бо на сталах у той час ляжаў узор, як трэба галасаваць, калі вы падтрымліваеце прэзідэнта. Вось і падтрымалі. Зараз маем тое, што маем.

Я гэта ўзгадаў таму, што хутка будзем выбіраць прэзідэнта. І ад нашага выбару будзе залежыць вельмі многа. Чалавека, які робіць адну і тую ж памылку альбо, як кажуць у вёсцы, двойчы наступае на тыя ж граблі, называюць дурнем. Дык давайце ж не будзем імі.

*Славамір Клімовіч.*

## Галасуйце не па загаду, а па голасу душы

Да выбараў засталіся два тыдні. Калі пачнецца папярэдняе галасаванне, у працу ўключыцца адміністрацыйны рэсурс – работнікаў заводаў, камбінатаў будуць прымушаць галасаваць датэрмінова. У калгасах і саўгасах кіраўніцтва пачне выстаўляць свае ўмовы сяльчанам, да прыкладу: прагаласуйце датэрмінова – дадзём грошы за малако. Настаўнікаў будуць прымушаць па-інтэлігентнаму, пад усялякімі выглядамі. Датэрміновае галасаванне – гэта вялікі козыр у руках мясцовых улад. Менавіта ў дні датэрміновага галасавання магчымы розная роду фальсіфікацыі на карысць цяперашняга кіраўніка, бо ў гэтыя дні многія грамадскія назіральнікі будуць занятыя і ўчасткі застануцца без іх пільнага вока.

Наогул, датэрміновае галасаванне арганізавана быццам бы для тых, хто не зможа прагаласаваць 9 верасня. Такіх людзей бывае 1-2% ад усёй колькасці выбаршчыкаў. У Беларусі, як не дзіва, датэрмінова галасуюць 25-30% жыхароў. Пытанне: "А дзе ж яны будуць 9-ага? Няўжо мільёны беларусаў у гэты дзень будуць у ад'ездзе? Вядома ж, не. Не ўсяму, што пішуць дзяржаўныя газеты і гавораць па радыё, можна верыць. Датэрміновае галасаванне арганізавана для прастакоў, якіх лёгка абальваніць салодкімі абяцанкамі. Калі Вы, паважаныя выбаршчыкі, хочаце, каб Ваш голас меў вагу і сілу, каб ім ніхто не пакарыстаўся ў мэтах уласнай карысці, прыходзьце галасаваць толькі 9 верасня. Памятайце: гэта Ваша права галасаваць і Вы можаце выбіраць, калі лепш для Вас гэтае права рэалізаваць. Ніколі не райцеся з членамі выбарчых камісій за каго Вам галасаваць. Лепш звярніцеся з пытаннем да суседа-выбаршчыка. Не правакуйце членаў камісій на правапарушэнні.

Магчыма, Вы зусім не хочаце галасаваць. Гэта таксама Ваша права – не ісці на выбары. Але падумайце, што за Вас нехта недобрасумленны можа апусціць бюлетэнь на карысць таго, каго Вы не хацелі б больш бачыць ва ўладзе. Ваша адсутнасць дазволіць падрабіць вынікі галасавання.

Не думайце, што Ваш голас нічога не значыць і што без Вас вырашаць, каму кіраваць Беларуссю. Гэта зусім не так. Права на годнае жыццё трэба адстойваць кожнаму з нас. І ніякая Расія, ніякі Захад не будзе думаць пра будучыню беларусаў, толькі мы самі.

Ідучы галасаваць, не глядзіце коса на членаў выбарчых камісій: яны такія ж людзі, як і Вы. У іх такія ж праблемы, яны такія ж паднявольныя, яны таксама хочуць шчасця і перамен. Непрыступнымі здаюцца толькі пасады, а людзі, якія іх займаюць, у большасці думаюць як мы – хопіць жыць на задворках цывілізацыі, пабірацца ад авансу да зарплаты, зайздросціць чужому багаццю. Мы ж не зломкі. Дакуль можна цярпець?

Прыходзьце на выбарчыя ўчасткі 9 верасня і рабіце выбар на карысць разумнага і шчаслівага жыцця для сябе і сваіх дзяцей.

*Я.Савойка*

«Гарачая» тэма




Праўавы лікбез

# Вы ўладкаваліся на працу

***Апошнім часам у Глыбоцкае аддзяленне БХК звяртаюцца грамадзяне з пытаннямі па працоўнаму заканадаўству. Кагосьці скарачаюць, некага звальняюць, таго пераводзяць на іншую працу без згоды... Людзі, якія не маюць юрыдычнай адукацыі і ўпершыню сутыкаюцца з такімі праблемамі, звяртаюцца да нас за кансультацыямі. Іншы раз паводзіны людзей здзіўляюць, бо большасць з нас, на жаль, па-ранейшаму давярае аддзелу кадраў, кіраўнікам і пускае на самацёк уласнае працаўладкаванне, не ведае як заключана працоўная дамова, у якасці каго прыняты на працу. Каб зрабіць гэтыя пытанні больш даступнымі і дапамагчы чытачам зразумець важнасць працоўных дамоў, мы сёння і пагаворым на гэту тэму.***

Калі Вы працаўладкоўваецеся, абавязкова пацікаўцеся ці ёсць на прадпрыемстве калектыўная дамова, бо якраз у ёй і ўтрымліваюцца Вашы асноўныя працоўныя правы, устанаўліваюцца памер і тэрмін выплаты заработнай платы, умовы працы, парадак прадстаўлення водпускаў і г. д. Згодна артыкула 54 Працоўнага кодэкса, працанаймальнік абавязаны пазнаёміць Вас з калектыўнай дамовай. Калі Вы паставілі пад ёй уласны подпіс, значыць, усе палажэнні калектыўнай дамовы распаўсюджваюцца і на Вас.

На што ж маюць права нашы грамадзяне ўладкоўваючыся на працу?

Па-першае, на гарантаваную справядлівую аплату працы, не ніжэй узроўня, які забяспечвае Вам і Вашай сям'і свабоднае і годнае жыццё. Не 20-40 тысяч адчэпных, на якія тыдзень пражыць цяжка, а тыя грошы, што дазваляюць Вам жыць па-людску (арт. 42 Канстытуцыі).

Праца Ваша, згодна артыкула 58 Працоўнага кодэкса, належыць індэксацыі і не толькі на момант налічэння грошай, але і на момант іх выплаты, бо ў нашай рэальнасці прамежак часу паміж налічэннем і выплатай усё больш павялічваецца і людзі, "дзякуючы" інфляцыі, трацяць свае кроўныя грошы.

Працоўныя маюць права на здароўе і бяспечныя ўмовы працы, а гэта значыць на тыя ўмовы, якія не дапускаюць траўматызму ці пашкоджання здароўя на працы (арт.41 Канстытуцыі). Згодна з артыкулам 10 закона "Аб прафесійных саюзах", прафсаюзы здзяйсняюць грамадскі кантроль за захаваннем належных умоў працы.

Працоўныя маюць права аб'ядноўвацца ў прафесійныя саюзы з мэтай абароны сваіх сацыяльных і эканамічных правоў і інтарэсаў (арт.41 Канстытуцыі). Маюць права на забастоўку – часовую добраахвотную адмову працоўных ад выканання працоўных абавязкаў (поўнасцю або часткова) -- з мэтай вырашыць калектыўную працоўную спрэчку. Гэта права замацавана ў арт.41 Канстытуцыі і ў арт.388 Працоўнага кодэкса.

Працоўныя маюць права на штодзённы і штотыднёвы адпачынак. Працяг штотыднёвага адпачынку павінен быць не меней 42 гадзін. Праца ў выхадныя дні магчыма толькі са згоды работніка. Усе работнікі маюць права на асноўны мінімальны водпуск не менш за 21 каляндарны дзень, на сацыяльнае страхаванне, пенсіённае забеспячэнне, судовую абарону працоўных правоў, права на выплату за нанесеную маральную шкоду.

Калі Вы даведаліся, што Ваша права парушана, трэба звяртацца ў камісію па працоўных спрэчках, якая ствараецца на прадпрыемстве працанаймальнікам і прафсаюзам, на працягу трох месяцаў з дня ўручэння Вам працоўнай кніжкі з запісам аб звальненні.

Ведайце, што прафсаюзы могуць звяртацца ў суд у абарону Вашых правоў. Калі Вы самі падалі іскавую заяву, то Вам не трэба плаціць дзяржпошліну.

І яшчэ, згодна арт.14 працоўнага кодэкса, забаронена дыскрымінацыя ў сферы працоўных адносін – неаднолькавая аплата працы за выкананне адной і той жа работы, неаднолькавыя ўмовы працы і г. д.

І памятайце. Калі Вас нешта не задавальняе або Вы маеце нейкія прапановы ці прэтэнзіі да адміністрацыі прадпрыемства, выказвайцеся пісьмова, пішыце заявы, рэгіструйце іх у сакратара, патрабуйце нумар рэгістрацыі, сачыце за тэрмінамі, у які Вам павінны даць адказ. Усё, што Вы робіце на словах – нікуды не пойдзе ў якасці доказа. Сілу дакументаў маюць толькі пісьмовыя запыты і такія ж адказы.

У наступны раз мы раскажам Вам пра тое, што трэба рабіць, калі Вас звальняюць і як правільна гэта робіцца.

*Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК*

### Як у ваду глядзеў

Если в мизерном составе
чувство чести и стыда
влить вождям,
то страх представить
их мучения тогда.

*И.Губерман*

Радкі з канвертаў

## Будзеце жыць даўжэй

Мая бабуля ніяк не хоча разумець, што цяперашняя ўлада са сваімі абавязкамі не спраўляецца, што загнала народ у балота, адкуль дарогі яе падмога, а яна сама. Бабуля гэтага разумець не хоча, хоць і згаджаецца, што я ндрэнна шыю, што гэтым няма на сухое, але паветра крышку даходзіць. Ледзь не сварымся, калі бабуля даказвае, што без яе пенсіі і цяперашняга кіраўніка я б не пражыла. Пры сённяшніх умовах без бабчынай пенсіі сапраўды жыць цяжка. Але ж калі зменяцца парадкі ў краіне, калі можна будзе адкрываць уласную справу, калі падаткі зменшацца, я змагу зарабляць на сябе і бабулі яшчэ дапамагу. А яна замест таго, каб у семдзесят год соткі садзіць, адпачне і пражыве даўжэй. Для мяне важней не магла б зарабляць сабе на хлеб.

"Але дзе ж у людзей грошы на швіва?" — пытае яна і гэтым сама сабе пярэчыць. У людзей няма грошы на ўборы, бо такія парадкі. Ці знойдзеце вы сёння чалавека, які б нічога не рабіў? Так, ёсць такія людзі: хворыя і калекі. Ды і тыя па магчымасці кратаюцца, бо пакуль жывы, нешта ў рот трэба класці. Усе працуюць, як і раней, нават удвая больш, а грошы не маюць на неабходнае. І трэба задумацца, што ў нас нешта не так. Так не можа быць. Ва ўсім свеце не маюць грошай толькі гультаі, а ў Беларусі – амаль усе беларусы. Дык што ў нас нацыя гультаёў? Не ведаю, які выбар зробіць мая бабуля. Калі прагаласуе за цяперашняга кіраўніка, значыць, ёй усё роўна, як буду жыць я. Калі паслухае мяне, значыць, дайшла да яе праўда.

Хачу звярнуцца да ўсіх паджылых людзей. Зразумейце, што не вы з пенсіі павінны гадаваць дзяцей і ўнукаў, а яны вас са сваіх заробкаў. Дзеці і ўнукі хочаць, каб вы даўжэй і лягчэй жылі, а не душыліся пакуль вочы не заплюшчыце. Падумайце, што будзе, калі нічога не зменіцца і не стане вас і вашых пенсій. Як будуць жыць дзеці і ўнукі?

*Аліна Сікора*

*Маладзіца-наезніца*



*Фотаздымак В.Саланінка*



# З запісной кніжкі прадпрымальніка

Так сталася, што жыццё прымусіла мяне гандляваць. Спачатку нудзілася па дзяржаўнай службе, дзе да паўдня плёткі бавілі, па кабінетах аціраліся, а пасля абеда па магазінах бегалі. Як пад канец месяца дык было што і дапазна працавалі, нават дадому справаздач ахопкі прыносіла. Але такі жорсткі графік быў дзён дзесяць у месяц, не больш. Але якая праца, такія і заробкі. А хацелася нешта прыдбаць сабе, у кватэру. І пайшла я ў прадпрымальнікі. Праца рызыкоўная, не для гультаёў і не для санлівых. Грошы, калі спраўна круцішся ў сваёй справе, будуць, а таму наша рызыка і ўсе складанасці апраўдваюцца. Не першы год я гандлюю ўсялякай драбязой, без якой людзі абысціся не могуць: ніткі, гадзіннікі, карціны…

Закупляюся ў Маскве – там ёсць усё, што хочаш і колькі хочаш – былі б грошы. Здзіўляе мяне вось што. У нас у Беларусі выпускаюць нядрэнныя гадзіннікі на фабрыцы "Луч". Вялікія пастаўкі гэтага тавару ідуць у Маскву. Мы ў Маскве купляем тыя гадзіннікі сваёй беларускай вытворчасці, аддаём расіянам грошы, вязём назад у Беларусь і прадаём за бясцэнак. На гадзіннікі ёсць попыт у нас. Навошта ж іх турыць у Маскву? Ці не прасцей было б дазволіць нам купляць іх оптам прама на заводзе. І нам выгадна і заводу – мы б плацілі "жывымі" грашыма. Нідзе няма гаспадара.

Калі прыязджаеш у Маскву, то прама з рук можна купіць бланкі накладных. Гэта вядома і нам, і маскоўскай міліцыі. І ўсё ж міліцыянеры таксама людзі: ім хочацца добра есці і піць, таму яны часта спыняюць гружаныя таварам машыны і просяць прад'явіць накладныя на тавар. Некаторыя нават спрабуюць звяраць запісы ў паперах з наяўным таварам. Так і карціць прычапіцца да нечага, каб сарваць куш для сябе. Удаецца не кожнаму і не кожны раз.

У дадзенай сітуацыі ўспамінаю анекдот пра інспектара ДАІ, які спыніў аўтамабіль і выпісаў вадзіцелю квітанцыю на штраф. Вадзіцель не разумее і пытаецца: "За што? Я ж нічога не парушыў?"

Інспектар у адказ: "Мае дзеці не могуць чакаць пакуль Вы нешта парушыце. Яны ўжо сёння хочуць есці".

І ўсё ж у адрозненне ад нашай міліцыі, маскоўская больш свойская. Большасць нашых міліцыянераў, асабліва ў сталіцы, глядзіць насцярожана, быццам шукае ворагаў белым днём на цэнтральных вуліцах, некаторыя настроены варожа. Нядаўна была ў Мінску. На праспекце Скарыны маладыя людзі, напэўна, з тэлебачання і хутчэй за ўсё не з беларускага, праводзілі апытанне. Бачылі б вы з якімі тварамі непадалёк, напагатове "к бою" стаялі ахоўнікі парадку. У руках рацыі нервова сціскаюць, паміж сабой шэпчацца, аглядваюцца. Вось аддай такім загад, скажы "фас" і адразу кінуцца. У Маскве на гэткія сцэнкі міліцыя нават не рэагуе і ў той бок не глядзіць.

Краіну, кажуць, як і бацькоў — не выбіраюць. І ўсё ж калі я, рызыкуючы, зарабіла грошы, то не хачу, каб дома на мяне глядзелі з падазрэннем і прыдумвалі які ярлык на мяне павесіць.

Паважаць чалавека трэба ўжо толькі за тое, што ён пры такім бардаку, як зараз, змог зрабіць і прагадаваць сям'ю, не просячы дапамогі ў дзяржавы.

*Алена В.*

*З убачанага*

## Сямейная "драма"

Раніца.На страсе хлява, ушчыцюрыўшы галаву ў плечы, сядзіць вялізная дзюбатая варона. Побач – меншая, але гарлапаніць будзь здароў. Кар ды кар большай на вуха. Кар ды кар. Большая цярпіць, цярпіць і адвернецца, а то і адсунецца ўбок. Аж на другую страху пералецела, а "сяброўка" не адстае. Такое ўражанне, што сабраліся дзве бабулі. Адна тугаватая на вуха, а другая стараецца ёй пераказаць нейкую навіну. І так назалеецца свaім крыкам, што другая не ведае, як ёй ад "сяброўкі" адкасацца.

Але на тое ў людзей і вочы, каб бачыць па-рознаму. На тое ён і розум людскі, каб асэнсоўваць па-свойму.

Муж паглядзеў нейкі час гэту сцэну і развязаў вузел сумнення:

-- Большы па памерах, гэта – Ён. А што каркае – Яна. Вымову мужу дае. Відаць, той учарашнім нядзельным вечарам другую шэрую ўпадабаў…

*Г.Сутула*

## Прыходзьце за абуткам

Нядаўна ў Глыбокім адчыніўся спецыялізаваны магазін, які прапануе пакупнікам прадукцыю асноўных вытворцаў беларускага абутку ў шырокім асартыменце.

Пад гандлёвы магазін арэндаваны былы пункт рамонту абутку райбыткамбіната.

Адчыніла новы магазін і абласное прадстаўніцтва аб'яднання "Беларускі абутак". Зараз, акрамя рынка, у горадзе прапануюць дзіцячы і жаночы дэмісезонны абутак чатыры гандлёвыя кропкі – фірменныя магазіны абутковых фабрык "Луч", "Красный Октябрь", "Марко", якія працуюць ужо даўно, і новы магазін.

*У.Шык.*

## А кошка была шалёная

Членам адразу трох сем'яў з сяла Васіліны Пастаўскага раёна прыйшлося лячыцца ад шаленства пасля кантакту з хворымі жывёламі. Нядобрае заўважыў адзін гаспадар, кот якога пачаў кідацца на людзей і адчайна мяўкаць. На другі дзень прыгажун загінуў, магчыма, падхапіўшы шаленства ад хворага янота.

Пры разборы гэтага інцыдэнта на месцы ўрачы-эпідэміёлагі з райцэнтра выйшлі на суседзяў, якія сустрэлі на дарозе гэтага звярка. Паколькі той ледзь перамяшчаўся, яго забілі, а труп спалілі. Зараз неасцярожным сялянам трэба лячыцца ад гэтай цяжкай хваробы.

*У.Шык.*

## Мудрасць

Лепш быць без памяці ад жанчыны, чым без усялякай на тое прычыны.

Кідаць грошы на вецер можна тады, калі вецер дзьме ў Ваш бок.

Гаспадар сям'і не той, хто зарабляе грошы, а той, хто іх траціць.

Сапраўдны мужчына – гэта той мужчына, які дакладна памятае дзень нараджэння жанчыны, але ніколі не ведае колькі ёй год.

Апошні крык моды – гэта крык мужа.

Свабодная асоба – гэта асоба, якую вызвалілі ад займаемай пасады.

## Польская вышэйшая гуманітарная школа ў Беларусі

Стварэнне гэтай школы зацверджана рашэннем Савета Беларускага інстытута правазнаўства на аснове дамовы паміж інстытутам і грамадскім аб'яднаннем "Польскае навуковае грамадства". Галоўная задача школы – падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй (бакалаўраў і магістраў) як з адрывам ад вытворчасці, так і без адрыву ад яго. Навучанне будзе весціся на беларускай, рускай і польскай мовах.

Як вядома, Беларускі інстытут правазнаўства працуе ў Беларусі з 1991 года. Тут рыхтуюць па спецыяльнасцях правазнаўства, міжнароднае права, эканоміка, аналіз і аудзіт, а таксама паліталогія і псіхалогія.

У інстытуце створаны 4 факультэты. Польская вышэйшая гуманітарная школа будзе пятым факультэтам інстытута. Набор абітурыентаў у школу праводзіцца па выніках уступных экзаменаў на конкурснай аснове. Пасля заканчэння вучобы выдаюцца дыпломы дзяржаўнага ўзору Беларускага інстытута правазнаўства. Акрамя таго – дыплом еўрапейскага ўзору аднаго з польскіх ВУЗаў. Выпускнікі "польскага факультэта" будуць працаваць у сферы забеспячэння беларуска-польскага супрацоўніцтва, а таксама супрацоўніцтва Беларусі з іншымі еўрапейскімі краінамі.

Асаблівасць навучання ў Польскай школе ў тым, што тут будзе весціся паскораная моўная падрыхтоўка – польскай ці англійскай, нямецкай ці французскай моў. З трэцяга семестра навучанне паступова будзе пераводзіцца на польскую мову. Прадугледжваецца частковае навучанне – праходжанне магістратуры, стажыровкі, напісанне дыпломнай работы, праходжанне практыкі – у польскім ВУЗе.

Набор аб'яўлены па ўсіх спецыяльнасцях інстытута. Акрамя таго ёсць дзве дадатковыя: "інтэгрыраваная паланістыка – польская і англійская ці нямецкая мовы" і "апякунская педагогіка". Пасля заканчэння гэтага аддзялення, яго слухачы будуць залічаны на другі курс беларускага ці польскага ВУЗа. Дакументы прымаюцца да 25 жніўня.

Школа размешчана на базе Беларускага інстытута правазнаўства ў г.Мінску, вул. Караля, 3.

***Даведкі па тэлефоне ў Мінску (017) 211-01-58.***

## Адным радком

У Шчучынскім лесе на Беларусі знойдзена ракета "Зямля-зямля". Яе даўжыня 8 метраў, вага 5-6 тон. Знайшлі ракету 16 ліпеня на месцы ранейшай дыслакацыі базы ракетных войск.

## АНЕКДОТЫ НА ЗАКУСЬ

Касір выдае настаўніцы грошы не вельмі чыстымі банкнотамі і кажа:

-- Спадзяюся, Вы не баіцеся мікробаў?

-- Не хвалюйцеся, -- гаворыць жанчына, -- ніводзін мікроб не зможа пражыць на гэты заробак.

***

Чаму певень спявае ўсё жыццё?

— Таму, што ў яго шмат жонак і ніводнай цешчы.

***

— Алё, добры дзень. Ваша цешча ўвалілася ў басейн з кракадзіламі.

— Ну і што? Вашы кракадзілы вы іх і ратуйце.

***

— Чаму вы не ратавалі сваю цешчу, калі яна тапілася?

— Я і не зразумеў, што яна топіцц. Крычала, як звычайна.

***

У армянскага радыё запыталі:

Ці можа на адну пуцёўку адпачыць уся сям'я?

— Можа, калі адправіць цешчу.

***

На ўроку геаграфіі:

-- А гэта, дзеці, мяжа нашай краіны.

Вовачка з апошняй парты кажа:

-- Не, гэта не мяжа, а рыса беднасці.

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

**БУДУЮ:**

**хаты, гаражы, фундаменты, платы з каменя. Нядорага. Па дамоўленасці. Тэлефон у Глыбокім: 23754**

**АБМЯНЯЮ:**

**☒ 3-пакаёвую прыватызаваную кватэру без выгод у Глыбокім на адна- або двухпакаёвую з выгодамі. Звяртацца па адрасе: вул.Чкалава, 3 кв. 2**

**КУПЛЮ:**

**☒ ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане. Тэлефон ў Наваполацку 8-245-73042(Саша)**

**ПРАДАМ:**

**задні мост да BMW 5-ай серыі. Тэл. У Глыбокім:23754**

**-- Аўтамабіль УАЗ -- 3962 («хуткая» дапамога), дызель, 1999г.в., колер -- пясочны, у выдатным тэхнічным стане, прабег 16 тыс. км**

**-- ЗІЛ-130, дызель.**

**Тэл. у Шунеўцах 3-43-85 (пасля 21⁰⁰)**

*Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!*

Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч, Наталля Янковіч
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарская, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 20 жніўня 2001 г. у $9^{00}$

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 5287